 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1177) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 17 ВЕРАСНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.

ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## Салодкая цукерка і горкая пілюля

Сабраліся мы на чарговых дажынках у нашай гміне. У прамовах усхваляўся сёлеташні ўраджай, дзякавалі за добрую працу, а тым часам яшчэ ўчора даводзілася мне бачыць зусім не адзіночныя палоскі аўса, ячменю і жыта... Рэдка хто паспеў заараць пожню і пасеяць паплёны, без якіх трудна будзе ўтрымаць на высокім узроўні малочнасць кароў і пастаянна павялічваць іх колькасць, што цяпер асабліва важнае, бо ўсе мы чулі і чыталі, што таварыш Герэк на сустрэчы з прадстаўнікамі сялян Апольскага ваяводства гаварыў.

Возьмем штучныя ўгнаенні...

— Столькі цяпер работы накапілася ў полі... — адазваўся незнаёмы селянін. — Хто бы меў час думаць пра штучныя ўгнаенні...

— Вось бачыш! — не стрымаў я. — А там, у Апольскім ваяводстве, селянін заяўляе, што 400 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва на 1 гектар поля мала!

— Ерунда! — махнуў рукой той селянін. — Пры такіх дозах або зусім спаліць збожжа, або яно так збуяе, што па зямлі пасцелецца. Што тады з ім зробіш?

Прызнаюся, і мне такія думкі прыходзілі. Сапраўды, трудна ўявіць, каб можна было аж столькі мінеральнага ўгнаення высыпаць на поле. Схапіў я алавік і пачаў пералічваць. Вось што выходзіць: каб знайшлося ў зямлі 400 кг хімічна чыстага рэчыва, неабходна рассеяць на 1 гектар поля 8-9 мяшкоў (па 50 кг кожны) амонавай салітры, 7-8 мяшкоў солі патасовай і 10-11 мяшкоў суперфасфату. Разам блізка 1,5 тоны штучных угнаенняў на 1 га! А ў мяне ж пад засевамі кожны год знаходзіцца больш-менш па 5-6 гектараў. Значыць. каб дайсці да такога ўзроўню, як у Апольскім ваяводстве, спатрэбілася б мне высяваць нейкіх 7 тон розных мінеральных угнаенняў. Хто іх за мяне пагрузіць і павозіць з ГСаўскага скла-

(Працяг на стар. 4)



**По роднай зямлі.** *На ўскраіне Белавежскай пушчы. Фота Я. Целушэцкага.*



*Мастацкі калектыў з Чэхаў Арлянскіх на сёлетнім цэнтральным аглядзе. Фота М. Шаховіча.*

БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78

## Кіруючая сіла

У гміне Дубічы Царкоўныя дзейнічае 17 пярвічных партыйных арганізацый (ПОП) з лікам 204 члены. У радах іх ёсць 20 былых ППРоўцаў. Найбольшай актыўнасцю вылучаюцца ПОП у вёсках: Ягаднікі, Доўгі Брод, Стары Корнін, Старына і іншых.

**Ягадніцкая** партарганізацыя налічвае больш дваццаці членаў. Кіруе ёю Рыгор Назарук (ён з'яўляецца і солтысам у гэтай вёсцы). 12 членаў ПАРП перадавыя ў вёсцы і гміне гаспадары. Рыгор Назарук і Уладзімір Куптэль вядуць спецыялістычныя гаспадаркі. Высокатаварную гаспадарку вядзе Дзмітрый Сурэль. Тутэйшыя сяляне спецыялізуюцца перш за ўсё ў жывёлаводстве: у гадоўлі авечак і быдла.

18 жніўня наведаў я солтыса Рыгора Назарука. Ён якраз быў заняты пры пабудове аграмаднай аўчарні. У ёй за паўтара мільёна злотых гаспадар выдзяліў асобнае месца на сочныя і так званыя трэсцівыя кармы, будзе тут і душ, і асобны пакойчык для адпачынку. У пакойчыку будзе зручная мэбля, якую гаспадар ужо загадзя купіў.

Варта падкрэсліць, што ягаднічане, гэта зжытыя з сабой, дружныя людзі. Р. Назаруку трэба было прывезці сілікатовую цэглу і пустакі на пабудову спамянутай аборы, і па іх паехалі аднасяльчане на ўласных трактарах, гуртам.

12 тутэйшых сялян актыўна ўдзельнічала ў партыйным пачыне сёлета ў месяцы маі. Усе яны (а былі яшчэ і іншыя незматарызаваныя вяскоўцы) прыехалі сваімі трактарамі з прычэпамі рамантаваць дарогу з Дубічаў Царкоўных да паўстанка ў Вітаве. Усе яны супольна з трактарыстамі з дубіцкага пункта механізацыйных паслуг дружна вазілі пясок і жвір. Сабраўшаяся моладзь і дарослыя расплянтоўвалі яго лапатамі. У той дзень выйшла працаваць больш як 500 чалавек. Вартасць чыну ацэньваецца на 150 тысяч злотых.

Вернемся аднак у Ягаднікі. Тут актыўная партыйная арганізацыя, усе яе члены. І таму гэтае сяло вылучаецца ў гміне матэрыяльным узроўнем жыцця, асаблівай эстэтыкай дамоў і сельскагаспадарчых будынкаў. Вёска ўжо чатыры гады запар займае першае месца ў гміне ў папулярным конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная", атрымала яна 120 тысяч злотых узнагароды. Дзякуючы гэтаму фонду ды грошам, якія самі сабралі (па 1000 злотых ад кожнага гаспадара), і пры дапамозе гмінных адміністрацыйных і партыйных улад, пабудавалі яны ў сябе ў самым цэнтры вёскі прыгожую 160-метровай плошчы святліцу. Гэтая святліца — таксама заслуга партыйнай арганізацыі.

(Працяг на стар. 4)




*

*Куток, дзе я калісьці рос,*
*У светлым ззянні далягляду,*
*У ветлым шапаценні рос —*
*Хоць раз у год наведаць рады,*

*Мой лес, мой луг, мая рака,*
*Нішто мне тут не пагражае...*
*Пясочак жоўценькі рука.*
*З пяшчотаю перасыпае.*

*Сачу за плёскатам вады*
*І аб сваім мяркую лёсе —*
*Ці ўдаль плывуць мае гады?*
*Ці лепшае тут засталося?*

**Павел Марціновіч**

У СЯМЕЙНЫМ КРУГУ

## Стопрацэнтнае жыццё

Конь стаяў у аглоблях. Марыя і Ян Рэенты з Міхнаўкі ў гміне Нараўка адпраўляліся ў Гайнаўку за мэбляй.

— Пабудаваліся, — кажа Марыя Рэент, — дык цяпер трэба і абсталяваць модную мэблю.

— За пяць гадоў, — гаворыць гаспадар, — то мы сабе пабудавалі хатумурованку, стадолу, хлеў, прасторны пограб і два калодзежы.

— А на дабавак яшчэ для сына справілі вяселле, — папаўняе яго жонка.

Вёска Міхнаўка распаўзлася па хутарах. Гаспадароў тут нямнога, але яны славяцца ва ўсёй гміне. За высокія прадукцыйныя вынікі Міхнаўка неаднойчы ўзнагароджвалася грашовымі ўзнагародамі.

— Жыццё цяпер, — сцвярджае Ян Рэент, — стопрацэнтнае!

— Каб толькі здароўе было! — дабаўляе яго жонка.

Яму — 53 гады, ёй — 49. Так па-сапраўднаму, самастойна пачалі яны гаспадарыць 15-17 гадоў таму назад.

— Пачыналі, — гаворыць дзядзька Іван, — ад трох гектараў бацькаўшчыны. Гэтай зямлі аднак было малавата. Прыйшлося папаўняць яе дзяржаўным фондам.

Цяпер у Рэентаў 12 га зямлі, 5 дойных кароў, 3 цялят, мясныя бычкі, 16 штук свіней.

Калі гавораць мне пра ўсё гэта, калі паказваюць сваю маёмасць, адчуваецца ў іх славах, у іх паводзінах зусім апраўданую гордасць.

— Гэта ўсё, — гаспадыня рукой абводзіць свой прасторны панадворак, — мы зрабілі самі. Амаль нікога не наймалі. Муж сам мураваў сцены і печы, усё рабіў сам.

Найперш паказваюць мне сваю мураваную абору. Пачуўшы гаспадароў, адазваліся свінні. Сярод іх вылучалася велічынёю адна мацёра.

— Здалі мы, — кажа гаспадыня, — яшчэ большага кормніка. Важыў ён звыш 300 кілаграмаў.

— Другога такога закалолі на ўласныя патрэбы, — гаворыць дзядзька Іван.

— А навошта вам аж столькі мяса і сала? — пытаю.

— Сям'я ў нас не малая, — кажа цётка Марыя. — Чацвёра дзяцей.

— А дзе ж яны?

— Гарадскога хлеба ім захацелася, — тлумачыць гаспадар. — Два сыны і дачка ў Беластоку, а адзін сын у Гайнаўцы. Ішлі ўсе іншыя, дык і яны не хацелі аставацца, а я ім гэтага не бараніў. Хай ідуць, папробуюць жыць самастойна.

— А ты, Іван, — адзываецца жонка, — ты не наракай на нашыя дзеці, бо яны пра нас не забываюць. Калі толькі могуць, дык прыязджаюць і памагаюць. І ў сенакос, і ў жніво, і ў капанне бульбы.

— Гэта праўда, — згаджаецца ён з жонкаю. — Не буду дарэмна грашыць. Сям'я ў нас дружная. Я ім, яны мне.

У садочку вакол вулляў бзычалі працавітыя пчолы. Гаспадыня пачаставала мяне духмяным ліпавым мёдам. І тады папрасіў я гаспадара, каб захацеў ён параўнаць, як жылося яму за бацькі, і як цяпер.

— Якое тут параўнанне! Няма ніякага, — гаворыць ён. — Цяпер жыццё стопрацэнтнае! Я хадзіў у пасталах, калі холадна было, а ўсё лета, дык баса-

Працяг на стар.4

 




## МЁРТВЫЯ НЕ АБАРАНЯЮЦЦА

У буржуазных краінах ужо даўно ўвайшоў у звычку гангстэрскі бізнес. Начныя налётчыкі крадуць малых дзяцей, падлеткаў, юнакоў і дзяўчат, а потым патрабуюць з бацькоў, блізкіх родзічаў пэўны выкуп. Чытачам памятны такі выпадак з літаратуры, яшчэ апісаны знакамітым Маркам Твэнам. У наш час на радзіме Марка Твэна крадуць не толькі дзяцей, а і дарослых людзей, нават афіцыйных асоб.

Але мець справу з жывымі людзьмі ўсё ж справа вельмі клопатная нават для гангстэраў. Украдзены чалавек адчайна супраціўляецца, выкідвае розныя конікі, крычыць, кусаецца, а то і збегчы незнарок можа. Таму зараз становіцца модай красці мерцвякоў альбо тыя ці іншыя прыналежнасці нябожчыка. Як, напрыклад, у сакавіку гэтага года з могілак у швейцарскім гарадку Карсье была ўкрадзена труна з целам Чарлі Чапліна.

Сярод лоўкіх людзей, якія практыкуюць крадзеж мёртвых дзеля выкупу, ёсць і такія, што зусім не тоячыся адкопваюць магілы. Прыкладам можа служыць група легальных злачынцаў, якія зараз арудуюць у Лондане. Яны адкрыта аб'явілі, што на аўкцыёне будзе прадавацца чэрап вядомага шведскага вучонага і філосафа XVIII стагоддзя Э. Сведэнборга, які быў тут пахаваны. Гандляры спадзяюцца выручыць за свой унікальны „тавар" ад двух да чатырох тысяч фунтаў стэрлінгаў.

Ні тым, хто яго прадае, ні тым, хто яго купіць, чэрап не зробіць аніякіх непрыемных турбот. Вядома ж, купіць яго нейкі мільянер, паставіць на пісьмовым стале і будзе скідаць попел ад сваёй сігарэты туды, дзе ў свой час змяшчаўся няўрымслівы філасофскі мозг, які думаў пра тое, як бы зрабіць людзей лепшымі.

Выпадкі крадзяжу мерцвякоў гангстэрскімі арганізацыямі нярэдкія. Таму ва ўсіх буржуазных краінах паліцыя і афіцыйныя органы ўжо насцярожаны ў гэтых адносінах. Нядаўна ў аргенцінскім горадзе Кардовы здарыўся падобны перапалох, хаця ніякага крадзяжу там і не было на самай справе. Два гады на аўтобуснай станцыі горада затрымаўся багаж, адпраўлены адным аргенцінскім археолагам у адрас другога археолага. Калі супрацоўнікі аўтобуснай кампаніі распячаталі гэты багаж у камеры забытых рэчаў, то, убачыўшы нябожчыка, адразу ж далі вестку ў мясцовую паліцыю: маўляў, забіты чалавек ляжыць у скрынцы, можа, гэта ўкрадзены нябожчык. Загадкавым было адно толькі: як праляжала гэтае цела два гады і не паспела згнісці, нават паху ніякага не мае? Пасля ўжо выявілася, што гэта была мумія, якая забальзамавана 500 год назад, і, канечне, яна не магла сапсавацца за два гады вымушанай затрымкі ў камеры захавання. Застаецца здзіўляцца, і таму, як гэтая мумія не папалася на вочы гангстэрам.



**Помнікі зямлі беларускай.** *Помнік савецкім ваеннапалонным, замучаным гітлераўцамі ў канцэнтрацыйным лагеры в. Масюкоўшчына паблізу Мінска.*

### ПІЛІП ПЕСТРАК

22 жніўня на 75 годзе жыцця раптоўна памёр Піліп Пестрак, вядомы беларускі пісьменнік, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

П. Пестрак нарадзіўся 14 лістапада 1903 г. у в. Сакаўцы на Брэстчыне. У кастрычніку 1926 г. уступіў у члены Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Амаль 11 гадоў правёў у турмах санацыйнай Польшчы. У вайну ўдзельнічаў у партызанскім руху. Быў вядомым грамадскім дзеячом.

Пачаў выступаць у заходнебеларускім друку ў 1927 г. як паэт. Галоўная тэма яго вершаў — рэвалюцыйнае змаганне працоўных. Гэта тэма займае вялікае месца і ў яго прозе. Значнай падзеяй у беларускай літаратуры стаў раман „Сустрэнемся на барыкадах".

П. Пестрак вядомы і як перакладчык твораў з рускай, украінскай і польскай літаратур.

### АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА

Пасля цяжкай працяглай хваробы 23 жніўня на 68-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі паэт Анатоль Астрэйка.

А. Астрэйка нарадзіўся 11 ліпеня 1911 г. у в. Пясочнае на Міншчыне.

Унёс прыкметны ўклад у стварэнне папулярных беларускіх песень. Сталі шырока вядомы песні на словы паэта „Ой, Нёман, ой, бацька мой Нёман", „Песня пра Заслонава", „Шоўкавыя травы", „Песня мінаеўцаў" і іншыя.

Шматлікія творы паэта перакладзены на рускую мову і іншыя мовы народаў СССР.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### УМАЦОЎВАЕЦЦА БАЗА

Віцебскі міжкалгасны будаўнічы камбінат перасяліўся на новую вытворчую базу. Уведзены ў дзеянне фармовачны цэх магутнасцю сем тысяч кубаметраў жалезабетонных канструкцый у год. Пушчаны таксама арматурны цэх, абсталёўваюцца бетона-растворны вузел, рамонтныя майстэрні і склады.

З поўным асваеннем вытворчай базы выпуск рамных канструкцый для мантажу паўназборных жывёлагадоўчых памяшканняў узрасце ў паўтара раза.

### ЗАШУМЯЦЬ ЛЯСЫ

У Чэрыкаўскім раёне працуе пяць школьных лясніцтваў. Юныя аматары прыроды пасадзілі летась 42 гектары лесу, дагледалі лясныя ўгоддзі на плошчы звыш 1 000 гектараў. Школьнікі сабралі і перадалі лесаводам сотні кілаграмаў насення каштоўных дрэў.

З вялікай любоўю і стараннем працуюць і сёння юныя лесаводы Вепрынскай, Халмянскай і Чэрыкаўскай сярэдніх школ.

### САМАЯ БУЙНАЯ Ў ЛІДЗЕ

Па суседску з гарадскім стадыёнам здадзена ў эксплуатацыю самая вялікая ў горадзе спартыўная зала. Рабочая плошча — больш за 750 квадратных метраў.

Менш як за паўтара года яе пабудавалі метадам народнай будоўлі калектыў рабочых і служачых завода „Лідсельмаш". Грамадскія інструктары праводзяць тут трэніроўкі ў дванаццаці спартыўных секцыях.

### АДПАЧЫНАК ПАСЛЯ РАБОТЫ

Ва ўрочышчы Сасновы Бор, што на беразе ракі Мухавец, узведзен прыгожы чатырохпавярховы будынак санаторыя-прафілакторыя Брэсцкага панчошнага камбіната.

Для адпачываючых створаны добрыя ўмовы. У цокальным і на першым паверхах размешчаны працэдурныя і лячэбныя кабінеты. Выдатна абсталяваны інгаляторый, кабінет лячэбнай фізкультуры, светлая і прасторная сталовая, жылыя пакоі, зала, дзе можна праслухаць лекцыю, пачытаць газеты, часопісы.

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**Дот 18 герояў ● Белкі ● У дружнай сям'і ● На востраве свабоды ● У родным доме Шапэна ● У гасцях у дзядзькі Кваса ● Жыццё чалавека ў народнай абраднасці ● Ашчаднасці і пазыкі ● Ткачыха з вёскі Вілянова ● Весткі з Гарадка, Нарвы, Дубін, Гайнаўкі, Кляшчэляў, Белавежы, Старога Ляўкова ● Калі сніцца, што ты прастытутка ● На цэнтральным стадыёне Задрыпанкі ● Песня „Jesienne róże".**

**— Niwa —**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1966; 7.200 egz. N-4






**Sobota 16 IX** — 6.00 RTSS. Mat. 6.30 Wskaz. met. 12.20 TTR. Upr. rośl. 13.20 Pr. dnia. 13.25 Dziennik. 13.35 Obiektyw. 13.55 Magazyn rol. 14.25 Filmy anim. 14.55 Kołobrzeg 78: Karuzela z piosenkami. 16.45 Ostatni brzeg — ameryk. dramat społeczno-obycz. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka 19.30 Dziennik. 20.30 Królowe dzikiego Zachodu — western. 22.05 Dziennik. 22.20 Mała antologia kabaretu.

**Niedziela 17 IX** — 6.15 TTR. Upr. rośl. 6.45 Hod. zwierz. 7.15 RTSS. Nasze spotk. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Nowa Tjumenia — radz. film dok. 11.15 Opowieści report. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Tylko w niedzielę. 12.35 Rep. z Muzeum Hist. 12.45 Warszawska taksówka — film dok. 13.05 Gawęda Sz. Kobylińskiego. 13.20 Warszawskie pamiętniki (II). 13.30 Władysław Hańcza. 14.20 Warszawskie pamiętniki (III). 14.30 Ludzie cyrku. 14.50 Skoki na nartach wodnych (I). 15.00 Los. Dużego Lot. 15.10 Turniej charakteryzatorów (I). 15.15 Skoki na nartach wodnych (II). 15.30 Trybunał wyobraźni. 16.10 Turniej charakteryzatorów (II). 16.15 Film fab. 18.00 Turniej charakteryzatorów (III). 18.05 W projektorze wspomnień R. Wojny. 18.20 Turniej charakteryzatorów (IV). 18.25 Bądź idealnym wujkiem. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Lalka — odc. I ser. 21.50 Sam na sam z T. Parnickim. 22.50 Zaproszenie do teatru. 23.20 Sport.

**Poniedziałek 18 IX** — 12.45 TTR Upr. rośl. 13.25 Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.25 Klub kibica. 17.45 Czerwone wino — odc. I czechosł. filmu. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. Krzysztof Choiński „Otwórz drzwi". 21.45 Camerata. 22.15 Dziennik.

**Wtorek 19 IX** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Dla kl. I—III Czerwone, żółte, ziel. 11.05 Dla kl. I Mat. 11.25 Lalka — odc. I ser. 12.55 Dla kl. IV lic. J. pol. 13.40 RTSS. Fiz. 14.10 TTR. Mech. rol. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Melodie. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Zgadnij kim jestem — teletur. 17.50 Szuflada: Dyrektor Jadwiga Pytlarzowa. 18.10 Człowiek z kanału — rep. 18.25 Raj zwierząt — przyr. film dok. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Blaski i nędze życia kurtyzany — odc. III ser. 21.35 W minutę po premierze. 22.25 Dziennik. 22.35 Teatr Małych Form. A. Achmatowa „Kwitnący głóg".

**Środa 20 IX** — 6.00 RTSS. Fiz. 6.30 TTR. Mech. rol. 8.10 Dla kl. VIII Chem. 10.00 Dla kl. V Hist. 12.00 Dla kl. VII i VIII Wych. plast. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 Chem. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Entliczek słowniczek. 17.00 Nie tylko dla kobiet. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Między nami jaskiniowcami. 18.10 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Cudze listy — radz. dramat obycz. 22.10 Dziennik. 22.25 Rozmowy o sztuce.

**Czwartek 21 IX** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 Chem. 11.05 Dla kl. VIII J. pol. 12.55 Dla kl. I—IV lic. J. pol. 13.25 RTSS. Mat. 14.00 Biol. 15,25 Pr. dnia. 15.30 Melodie. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Czwartek TDC. 17.55 Poligon. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Colombo — odc. ameryk. ser. sens. 22.00 Pegaz. 22.45 Dziennik.

**Piątek 22 IX** — 6.00 RTSS. Mat. 6.30 Biol. 8.10 Dla kl. VII Geogr. 10.00 Dla kl. VI Geogr. 11.05 Dla kl. VII—VIII Wych. ob. 12.45 RTSS. Mat. 13.25 Biol. 14.45 Red. szk. zap. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — psych, 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Piątek z Pankracym. 17.00 Spotkania z medycyną. 17.30 Na morzu — odc. VIII ser. 18.40 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Powrót — film obycz. 21.30 Śledztwo zostało wznowione — pr. publ. 22.00 Dziennik. 22.15 Bal maskowy — film dok.




**Piątek 15 IX** — 8.55 Film fab. II cz. 18.45 III cz. 20.30 Wieczór humoru. 22.00 Koncert estrad.
**Sobota 16 IX** — 8.55 Film fab. III cz. 13.55 Film fab. 16.00 Nie do wiary. 20.30 Spektakl.
**Niedziela 17 IX** — 7.55 Koncert. 10.00 Film fab. 13.00 Spektakl. 15.35 Panorama międzynar. 16.30 Filmy anim. 18.00 Klub film. 20.00 Koncert. 21.00 Zawody l.a.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).




**Białowieża** Cała naprzód — pol. 19. Agnieszka 46 — pol. 20. Zaraza — pol. 21. Brylanty pani Zuzy — pol. 22. Koniec wakacji — pol. 23. Godzina za godziną — pol. 24.
**Bielsk Podl.** Mandingo — wł. 18—19. Barocco — fr. 20—21. Jak rozpętałem II wojnę światową — pol. 22. Cafe pod Minogą — pol. 23. Zezowate szczęście — pol. 24.
**Gródek** Agnieszka 46 — pol. 23. Zaraza — pol. 24.
**Hajnówka** Opętanie — pol. 18. Rok pierwszy — pol. 19. Milion za Laurę — pol. 20. Kaszabe — pol. 21. Martwa fala — pol. 22. Zamach w Sarajewie — czes. 23—24.
**Michałowo** Mniejszy szuka dużego — pol. 19. Z tamtej strony tęczy — pol. 20. W te dni przedwiosenne — pol. 21. Ten okrutny nikczemny chłopak — pol. 22. Trzy kobiety — pol. 23. Sekret — pol. 24.
**Mielnik** Nowy — pol. 20. Deszczowy lipiec — pol. 23. Cafe pod Minogą — pol. 24.
**Narew** Śmierć prezydenta — pol. Najdłuższa droga — jug. 20—24.
**Narewka** Granica — pol. Akcja „Salamandra" — rum. 20—24.
**Nurzec** Kalina czerwona — radz. 19—20. Koncert na patelnię i orkiestrę — NRD 21—22. Szczególny dzień — wł. 23—24.

# Кіруючая сіла

(Працяг са стар. 1)

Ягадніцкая ПОП мае свайго апекуна ад імя Гміннага камітэта партыі ў Дубічах Царкоўных у асобе Анатоля Патэюка. Арганізацыя пастаянна павялічваецца.

ПОП у **Доўгім Бродзе** складаецца з 18 членаў, з якіх 12 — хлебаробы. Тут сёлета за паўгоддзе да партыі запісалася 4 асобы. Дзелавітасцю вылучаюцца: Аляксандр Мацкевіч і кандыдат партыі, солтыс Віктар Вапа — ўсе з Доўгага Броду, Ян Кендысь сын Бартламея з вёскі Пяскі і іншыя.

Дзейнасцю ПОП у **Старым Корніне** кіруе жанчына, тутэйшая настаўніца Вера Баравік (першы сакратар партарганізацыі).

Члены ПАРП у грамадскім пачыне пабудавалі дарогу з вёскі на поле. Навезены пясок раўнялі машыны мясцовай сельскагаспадарчай прадукцыйнай спулдзельні. Моладзь пабудавала ў сябе „зялёную святліцу" перад клубам і праклала тратуары з вуліцы да клуба.

**Старынскую** 10-асабовую партарганізацыю ўзначальвае Міхал Клімук ад 1964 года. Гэта актыўная арганізацыя. Жыве яна справамі цэлае вёскі. Члены партыі на сваіх сходах абмяркоўваюць справы поўнага загаспадарання папару, перабудовы вулічнага асвятлення, меліярацыі і загаспадарання супольных пасбішч над рэчкай Палічнай, адкрыцця аўтобуснай лініі ПКС у вёску, павелічэння таварнай прадукцыі ўласных гаспадарак і іншыя справы. Некаторыя з гэтых праблем ужо вырашаны.

Павялічыць сельскагаспадарчую прадукцыю абавязалася 5 гаспадароў. Канчаткова была вырашана справа аўтобуснай лініі. 2 ліпеня гэтага года пачаў прыязджаць у вёску аўтобус ПКС.

У працы ПОП вялікую дапамогу аказвае кіраўнік гміннай сельскагаспадарчай службы Мікалай Цімафеюк. У партыйным пачыне члены партыі і беспартыйныя працавалі пры пабудове дарог: са Старыны ў напрамку Гурнага Гроду і недалёка ад вёскі Аляксеюкі.

Гмінны камітэт ПАРП у Дубічах Царкоўных запланаваў у асенне-зімні перыяд 1978 і 1979 гадоў весці масавае абучэнне членаў партыі. Будзе яно адбывацца ў 13 арганізацыях: у васьмі тэмай заняткаў будзе „Добрасумленная праца крыніцай поспеху і ўдач палякаў" і ў пяці — „Нацыянальны даход — цэны і заработкі". У трох ПОП лектары будуць чытаць даклады.

У гмінным цэнтры ідэйна-выхаваўчай работы перадавы актыў будзе ў рамках ВУМЛ вывучаць грамадска-гаспадарчую палітыку ПНР.

Для жанчын арганізаваных будзе тры школы грамадска-палітычнага абучэння: у Старым Корніне і Тафілаўцах (I ступені), у Ягадніках (II ступені) і ў Дубічах Царкоўных (III ступені). На курсах жанчыны будуць таксама праходзіць падрыхтоўку да экзаменаў на званне кваліфікаванага гаспадара. У некаторых вёсках будуць арганізаваны курсы крою і шыцця і кулінарныя курсы.

Варта адзначыць, што ў Дубіцкім цэнтры ідэйна-выхаваўчай работы існуе кансультацыйны пункт для кандыдатаў партыі. У цэнтры багата партыйнай прэсы і літаратуры. Ёсць тут фільмовы кінаапарат, эпідыяскоп, магнітафон і фотаапарат. Карыстаюцца імі лектары і наведвальнікі.

**Янка Целушэцкі**

# Стопрацэнтнае жыццё

(Працяг са стар. 1)

нож, з маленства пасвіў то гусей, то кароў. А цяпер папрабуй загнаць дзецюка да кароў!

— А навошта іх цяпер гнаць? — уключаецца жонка. — То ж пасбішча абгароджанае, разбітае на кватэры, каровы на ланцугах.

— А сенакос або жніво, — працягваў сваё дзядзька Іван. — У майго бацькі цягнулася яно тыдзень, а то і болей. Цяпер мы, значыць, я з жонкаю, збіраем сена за два дні. Першага дня выкашу касілкаю і разаб'ю на пакосы, а другога, калі пагода спрыяе, высушым, коннымі граблямі сцягну ў валы і забірай гатовае сена з цэлага гектара сенажацяў! Бацька мой калісьці садзіў два га бульбы, а я разам з сястрою і шваграм (бо паміж нас ён падзяліў сваю зямлю) садзім тры разы больш. Няма ніякага параўнання. А бацька мой лічыўся багатым гаспадаром. То ж калі сабе прыпомню, што было ў бацькоўскай хаце, а што ёсць цяпер у нас...

— А што ёсць у вас? — пытаю.

— Усё, што трэба, — кажа гаспадыня. — Пралька, лядоўка, тэлевізар, транзістар, швейная машына, зрэшты паглядзіце самі.

Найперш захапілі мяне цудоўныя, шматкаляровыя дываны, якія красаваліся на пасцелі. Аказваецца, што Марыя Рэент тчэ іх сама.

— Дзе вы вучыліся гэтага майстэрства? — пытаю яе.

— Ад уласнай мамы, — гаворыць яна. — Як толькі падрасла, як дастала нагамі да педаляў, дык ужо бралася за тканне. Трэба два кілаграмы ваўнянай пражы на ўток і фабрычных нітак № 10 на катушках, з якіх мы робім аснову, а пасля — тыдзень часу працы, ну і будзе вось такі дыван.

Адзін з навейшых сваіх вырабаў яна развесіла на плоце, каб у поўным сонцы маглі мы палюбавацца яго красой.

— Пара нам, — напомніў гаспадар. — Дарога ў нас далёкая.

Прыйшлося развітвацца. Усяго вам добрага, сябры з вёскі Міхнаўка!

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Марыя Рэент з Міхнаўкі і яе шматкаляровыя дываны ўласнага вырабу.*

(Працяг са стар. 1)

# Салодкая цукерка і горкая пілюля

ду на мой панадворак, а з майго панадворка на поле, хто іх перасыпле ў сеўнік?

Не, даражэнькія, я не супраць мінеральных угнаенняў. Яны сапраўды з'яўляюцца найлепшымі вітамінамі ўраджаю і я першы пачаў іх прымяняць у нашай вёсцы. Цяпер, калі б дакладна палічыць, выходзіць у мяне нейкіх 180-200 кг хімічна чыстага рэчыва на 1 га. Ну, на сенажаці і пасбішчы яшчэ больш. Думаў, што я па гэтай справе перадавік, ударнік, бо сярэдні ўзровень для нашай гміны не перавышае і 150 кг на га.

А тут чую: 400! І яшчэ чую, што гэтага мала! Селянін дапамінаецца ў таварыша Герка, каб даў больш! Ды як спрытна. Анекдот пра цукерку яму расказаў. Значыць, калі дзіця спрабуе цукерку, то й зноў дапамінаецца!

А калі б і нам папрабаваць гэтай цукеркі! Вось менавіта. Бо, пакуль што, астаюцца нам горкія пілюлі сораму! 130-150 кілаграмаў угнаенняў і ўраджаі на ўзроўні, што лепш у краіне не прызнавацца...

Грымнуў аркестр і паплыла ўрачыстая песня „Плён нясём мы, плён..." Дзяўчаткі-прыгажуні і рослыя хлопцы неслі вялікі, прыгожа ўквечаны дажынкавы вянок. Мы спынілі гутарку і заслухаліся, заглядзеліся ў захапленні. Штосьці незвычайнае, нейкая радасць, перамешаная з трывогай адазвалася ў сэрцы. Плыў перад намі вось гэты сімвал нашай працы і адначасова не давала спакою свядомасць, што можна яшчэ больш і лепш. Салодкая цукерка перамешвалася з горкай пілюляй.

— Без паўлітра не разбярэш! — пафіласофску закончыў нашы вывады адзін з удзельнікаў гэтай гутаркі.

— Пайшлі, хлопцы! — дакінуў іншы і мы пайшлі ўсе разам, бо ніхто не меў адвагі, каб адказацца ад кампаніі. І я таксама. То ж была гадавая ўрачыстасць — дажынкі...

**Максім Нурэцкі**

# Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### Якуб Колас — частка X

Ва ўсіх прадстаўленых дагэтуль творах Коласа сентыментальныя матывы хаця і прысутнічалі, то не былі адзінымі. У спадчыне пісьменніка знаходзім творы, у якіх сентыментальная плынь адзначаецца большай інтэнсіўнасцю. Да іх належаць апавяданні „Сірата-Юрка", „У старых дубах" і некаторыя эпізоды „Сымона-Музыкі".

Як вядома, класічны сентыменталізм праяўляў асаблівае зацікаўленне постацямі дзяцей, надзеленых выключнай пачуццёвасцю і ўражлівасцю на харaство прыроды. Сентыменталісты найчасцей паказвалі пастухоў, якія знаходзяцца ў гарманічным сужыцці з прыродай і не заўсёды добра сябе адчуваюць сярод людзей.

Вось гэтыя схільнасці сентыменталізму і знайшлі адлюстраванне ў навеле „Сірата-Юрка". Герой твора — вясковы хлопчык, звязаны пачуццём сардэчнай дружбы з самотнай елкай. У апавяданні развіваюцца дзве паралельныя, але звязаныя лініі — жыццё Юркі і жыццё дрэва. Хлопчык інстынктоўна адчувае эмацыянальную сувязь з елкай, якая з цягам часу пачынае здавацца яму памершай маці. Апавяданне канчаецца трагічна. Герой навелы Юрка і елка гінуць. Юрка ўмірае, а елку зразаюць.

Новай характэрнай рысай сентыментальных твораў Коласа з'яўляецца тое, што іх героі ў найменшай ступені не стараюцца падпарадкаваць сабе прыроду. Наадварот, трактуюць яе як партнёра ў кожным сэнсе роўнага ім.

Дадатковым момантам, які сведчыць аб арганічнай сувязі гэтых твораў з сентыменталізмам, з'яўляецца наіўная вера ў існаванне духоўнага элементу ў жыцці прыроды. Такі падыход да рэчаў асабліва характэрны для „Сіраты-Юркі" і многіх фрагментаў „Сымона-Музыкі". Згодна з сентыментальнымі нормамі пісьменнік паказвае духовы кантакт жывых з памёршымі.

З іншай сентыментальнай уласцівасцю маем дачыненне ў першых раздзелах рэалістычнай у прынцыпе паэмы „Новая зямля". Першыя раздзелы гэтага твора былі, як вядома, створаны Коласам у турме. Кіруючыся прынцыпамі запярэчання, ідучы ўразрэз з страшэннай турэмнай рэчаіснасцю, ствараў паэт ідылічныя вобразы страчанага дзіцячага свету.

Першыя раздзелы паэмы маюць характар пахвалы вольнага жыцця на ўлонні прыроды:

„Хоць я няволяю цяжкаю змучан
І з родным берагам разлучан,
Ды я душою ажываю,
Як вокам мыслі азіраю
Цябе, мой луг і бераг родны,
Дзе льецца Нёман срэбраводны".

Такім чынам, паэтычныя прызнанні маюць тут характар лірычнай дэкларацыі, эмацыянальнага роздуму, накладання мінулага на сучаснае. Усе разважанні вядуцца тут па прынцыпу антытэзы: свабода і няволя, дзяцінства і старасць, мінулае і сучаснае.

Сентыментальныя матывы выступаюць таксама ў раздзелах: „Леснікова пасада", „Раніца ў нядзельку", „За сталом". Амаль усе апісанні датычаць тут знешняга выгляду рэчаў і падзей. Ідылічна прадстаўляе паэт прыроду і людзей. Цікава, што ў першых трох раздзелах паэмы няма акцыі. Дзеянне пачынаецца ад чацвертага раздзела, і тут пісьменнік становіцца на цвёрды рэалістычны грунт.







Прысніўся Івану сон, быццам бы яго хата загарэлася. Гарыць, як свечка, а вакол ані душы. Ні жонкі, ні дзяцей. Вёска, як вымершая. А да хаты падступіцца нельга — пыхціць, балахціць. І раптам ні стуль, ні адсюль сусед паявіўся. Стаіць і басаком галавешкі расцягвае і ўсё на свой панадворак. Вооо — такую кучу нацягаў. Прабудзіўся Іван і да розуму не дойдзе. Што за дурны сон? Ён і хрысціўся, і прасіў святога Іосіфа, каб з дрэннага на добры гэты сон пераменіў, а ў канцы канцоў махнуў рукою і пачаў апранацца: „Ат, сніцца — той сніцца" — супакоіў сябе. Але сон так лёгка пакінуць яго не хацеў. Не адставаў ад яго ані на крок.

— Пажар — гэта ўбытак, — сказала старая Яўдося, Іванава маці. — О, у сны трэба верыць. Збываюцца яны. Я памятаю, як калісьці той канец вёскі гарэў, то нашым маме дзве ночы падрад чырвоныя каровы сніліся, як табуном праз вёску праходзілі. Чырвоныя-чырванюсенькія. Яны так і гаварылі, што пажар будзе. І збылося.

— А я ўжо даўно заўважыла, што з нашым парсючком нешта нядобрае, — пачала жонка. — Ужо некалькі дзён сахнеўшы стаіць. І есці так не есць, як еў. Каб часам, барані бог, не здох. Ведаць, то дакалолі б. Такі парсючок!

— А я там гавару, што суседа трэба асцерагацца, — пачала зноў Яўдося. — Са сну ж выразна відаць, што ён, нібы памагаючы, усё да сябе цягнуў. Нажыцца на нашым хоча. Я ўжо раней падазравала, але маўчала, а цяпер сон пацвердзіў. Ты глядзі, ці ён часам з хлявамі на нашае ўлезці не хоча. Будавацца ж думае, а тут плоту няма ды і мы ўсе з ім цацы-цацы, той думае, што ніхто там даходзіць не будзе. Штось ён апошнім часам надта добранькі зрабіўся. Учора малому яблык надаваў.

— І сапраўды ці часам мы тут незадобра з ім, — перадумоўваў Іван. — Ён тут чуецца, як пан. Разгароджана. І гусі яго тут ходзяць, і куры на панадворак лезуць, і авечкі забягаюць. Як добра, то добра, але калі ты яшчэ нажывацца на маім хочаш, то не... Як замнога, то і гарбатага згневае. Можа і праўда. Я ўжо заўважыў, як ён у мінулым годзе вяз спускаў. Калі не на маім, то прынамсі на мяжы рос. Але от не хацелася гэтай грызні, суседзі ж... Ну а як так, то больш твае куры тут хадзіць не будуць.

І яшчэ ў гэты ж дзень пачаў закопваць слупкі пад плот.

— Што ж ты, Іван, робіш? — паказаў на выкапаныя пад слупкі ямкі сусед. — Хочаш гарадзіцца, дык гарадзіся, але навошта ж ты з слупкамі на маё лезеш?

— Што на тваё? То глянь на агароды, як мяжа бяжыць!

— Ты мне тут агародамі не тыцкай, а глянь, дзе гранічны паль закапаны, сляпаку ты!

— Палём ты мне тут вачэй не замазвай! Думаеш, не ведаю, што перанёс, каб з хлявамі на самую мяжу ўлезці! А чаго там зямля свежа пакапаная была?

— Каб ты праваліўся, то ж твая бахурня з маімі дзецьмі роў капала, каб ваду з панадворка спусціць.

— Мае не капалі, а твае можа і так. Самому сорамна было, то дзяцей напусціў, каб перанеслі. Хопіць, нажыўся.

— Я на тваім, каб цябе спруціла?! А то чые куры па панадворку бегаюць, — папусціў кіем, толькі ножкамі засукатала.

— А, ты зладзюга!

